Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 340.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 8549

# НАВІНЫ



Пятніца, 17 ліпеня 1998 г. | № 76 | Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Еўрапарламент прымае рэзалюцыю па Беларусі

**Учора Еўрапейскі парламент разглядаў рэзалюцыю па сітуацыі ў Беларусі. На абмеркаванне былі прапанаваныя праекты ад фракцыі «зялёных» і ад сацыял-дэмакратаў.**

Рэдакцыя атрымала тэксты абодвух праектаў з брусельскага офіса Хартыі'97. Яны адрозніваюцца паміж сабою толькі дэталямі, і хоць на момант падпісання газеты ў друк нам не было вядомае канчатковае рашэнне, можна меркаваць, што Еўрапарламент прыняў дастаткова жорсткую рэзалюцыю.

Еўрапейскі парламент падзяляе рашэнне Савета Еўрасаюза аб увядзенні візавых санкцыяў супраць вышэйшых беларускіх чыноўнікаў і заклікае прэзідэнта Лукашэнку поўнасцю прытрымлівацца Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах, забяспечыць магчымасць для нармальнай работы дыпламатычных прадстаўніцтваў.

Аднак канфлікт вакол Драздоў — толькі адзін з аспектаў рэзалюцыі. Адзначаецца, што ў Беларусі маюць месца пастаянныя грубыя парушэнні правоў чалавека і дэмакратычных нормаў. У сувязі з гэтым Еўрапарламент падтрымлівае дзейнасць місіі АБСЕ ў Мінску, лічыць неабходным працягнуць тэрмін яе паўнамоцтваў. Падкрэсліваецца, што, каб пераадолець самаізаляцыю краіны, Еўрапейскі Саюз павінен дапамагаць дэмакратычным сілам у Беларусі, а беларускі ўрад не перашкаджаць рэалізацыі праграм *TACIS*. Акрамя таго, у тэксце дакумента ёсць наступнае палажэнне: *«Еўрапарламент заклікае да правядзення ў 1999 г. свабодных і справядлівых прэзідэнцкіх выбараў пры забеспячэнні ўсіх неабходных дэмакратычных стандартаў, у тым ліку вольнага доступу апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі».*

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Рыгоравіч, памажы!

**Адміністрацыя Краснагорскага раёна Бранскай вобласці Расіі звярнулася да Аляксандра Лукашэнкі з заклікам «оказать району гуманитарно-техническую помощь и взять шефство над районом».**

Краснагорскі раён мяжуе з Магілёўскай вобласцю. Кіраўніцтва раёна лічыць, што мяжу паміж намі няма і беларусам пад сілу ўзяць на парукі расіянаў. *«Мы глубоко переживаем за судьбу своей Родины, считая ею не только Россию, но и другие бывшие советские республики... Надеемся, что с вашей помощью сумеем сделать Красногорский район «маленькой Беларусью»,* — пішуць краснагорскія чыноўнікі.

А можа пайсці далей? Хай забяруць краснагорцы галоўнага беларускага інтэгратара да сябе, і будзе ён прэзідэнтам «маленькай Расіі».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Мірон святкуе

**Легендарны Мірон нядаўна зноў нагадаў пра сябе ўладам Лёзна. На гэты раз ягоная акцыя была прымеркаваная да ўгодкаў Грунвальдскай бітвы.**

Уначы з 14 на 15 ліпеня на 40-метровым коміне мясцовага райбыткамбіната гэты няўлоўны падпольшчык зноў вывесіў бел-чырвона-белы сцяг з прымацаванай да яго запіскай наступнага зместу: *«Господа чиновники! Ваши праздники кончились. Прыйшоў час і мне аддаць даніну памяці продкам, слаўным сынам зямлі беларускай, героям бітвы пад Грунвальдам. Мірон».*

А тым часам віцебскія следчыя актыўна апытваюць сведак, якія бачылі, як два месяцы таму сярод дня Мірон падняў нацыянальны сцяг над будынкам абласнога ўпраўлення... 

**Язэп СІНІЦКІ**

## Знайшлі апошняга гусара

**Падчас земляных работ на плошчы Касманаўтаў у Магілёве адкрылася масавае пахаванне вайскоўцаў.**

Нечаканая экскаватар пачаў даставаць з зямлі чалавечыя косці і рэшткі колішняга гусарскага адзення. Дарэчы, адзенне больш-менш захавалася: медныя гузікі, шпоры на ботах, мундзіры. Як патлумачылі пазней спецыялісты-гісторыкі, на гэтым месцы ў пачатку XIX стагоддзя правадзілі бай з арміяй Напалеона, у якіх загінула шмат гусараў царскага войска.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### *Да ўвагі чытачоў!*

***Шаноўныя чытачы! Абставіны вымушаюць нас скараціць перыядычнасць выпуску газеты. Апошнія два тыдні гэтага месяца НАВІНЫ будуць выходзіць толькі па пятніцах — 24 і 31 ліпеня. Але са жніўня газета зноў будзе выходзіць як звычайна — тры разы на тыдзень. Кароткі тайм-аўт выкліканы тэхнічнымі прычынамі — рэдакцыя пазбавілася памяшкання, і наступныя два тыдні нам давядзецца рабіць газету ў «паходных» умовах. Выбачайце.***

**РЭДАКЦЫЯ**

*Злучаныя Штаты далучаюцца да Еўропы*

## Вашынгтон зачыняе дзверы

**Услед за 25-цю еўрапейскімі краінамі Злучаныя Штаты таксама ўводзяць візавыя абмежаванні на ўезд у Амерыку высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў.**

Атрымаўшы гэтую навіну, ведамства Івана Антановіча ў чарговы раз *«выказала шкадаванне, што замест канструктыўнага дыялогу адбываецца далейшая эскалацыя напружанасці».* Акрамя таго, беларускае МЗС лічыць, што *«ў выступленні прадстаўніка Дзярждэпартамента ёсць грубыя выпады на адрас кіраўніцтва Беларусі, недапушчальныя для заяваў падобнага роду».*

Чым жа пакрыўдзіў Вашынгтон нашых «драздоў»? *(Чытайце ніжэй.)*




**Удзельнікі прафсаюзнага мітынгу ў Мінску 15 ліпеня практычна аднагалосна ацанілі дзейнасць прэзідэнта краіны як «нездавальняючую».** *(Працяг тэмы на стар. 2)*

## Мёртвы сезон

*У чыноўнікаў пачалася чарговая адпускная кампанія*

Трэба зазначыць, што сёлетні адпачынак проста неабходны для функцыянераў, каб падтрымаць моцна сапсаваны настрой. Праўда, магчымасцяў стала меней, бо ў Грэцыю, Балгарыю ці на Кіпр візаў не дадуць, таму давядзецца абмежавацца «рублёвай зонай».

У шыкоўным санаторыі «Беларусь» на Чарнаморскім узбярэжжы курортны сезон адкрыў міністр абароны **Аляксандр Чумакоў**, які адпачывае з 8 ліпеня.

Прэм'ер-міністр **Сяргей Лінг** пакінуў свае справы 13 ліпеня, як сцвярджае прэс-служба, «для кароткачасовага водпуску ў межах Беларусі». У прыёмнай прэм'ер-міністра паведамілі, што разам з шэфам у адпачынак пайшлі ўсе ягоныя памочнікі і прэс-сакратар. Сяргей Лінг папрасіўся адпачываць да 31 ліпеня. Кіраўнік урада дзесяць дзён будзе ў санаторыі на возеры Нарач, астатні час правядзе «па сваім плане» — так паведаміла нам крыніца ва ўрадзе. Магчыма, Сяргею Лінгу «захочацца пахадзіць па горадзе без аховы». У апараце Саўміна сказалі, што ў прэм'ера «выдатны стан здароўя».

*(Працяг на стар. 2)*

## Адказ Злучаных Штатаў на парушэнне Беларуссю міжнароднага заканадаўства

*Заява афіцыйнага прадстаўніка Дзяржэпартамента ЗША Джэймса Рубіна*

На працягу апошніх некалькіх тыдняў беларускі рэжым разгарнуў кампанію, якая кідае выклік аднаму з асноўных прынцыпаў дыпламатычных адносінаў. Сваімі дзеяннямі Беларусь адвяргае законнае права дзяржаваў ажыццяўляць іх дыпламатычныя справы без умяшання і запалохвання з боку ўрада прымаючай краіны. Згодна з Венскай канвенцыяй аб дыпламатычных зносінах, якую Беларусь таксама падпісала, тэрыторыі амбасадаў і рэзідэнцыі паслоў абараняюцца прынцыпам недатыкальнасці. Мясцовыя ўлады не могуць уваўсці на іх без дазволу, яны таксама павінны абараняцца ўрадам прымаючай краіны. Гэтыя нормы паводзінаў з'яўляюцца неабходнай умовай для вядзення нармальных дыпламатычных справаў. Гэта не прывілеі, якія могуць выдзяляцца прымаючай краінай, а асноўныя законныя правы, якія павінны быць абароненыя.

Тры тыдні таму Беларусь ажыццявіла беспрэцэдэнтныя дзеянні, прымусіўшы паслоў Злучаных Штатаў і дзесятка іншых краінаў пакінуць Мінск. Рэжым Лукашэнкі зрабіў гэта пры дапамозе грубай кампаніі цкавання, разгорнутай пад выглядам правядзення неадкладнага рамонту камунікацыяў у пасёлку, дзе размяшчаліся дыпламаты. На самой справе, рамонт можна было правесці належным чынам і без зрыву дзейнасці дыпламатаў, якія там размяшчаліся, калі б праблема была толькі ў гэтым. Але справа ў іншым. Чаго сапраўды хацеў рэжым Лукашэнкі, дык гэта выселіць дыпламатаў і абмежаваць іхныя дыпламатычныя свабоды і іх дзейнасць на Беларусі, фактычна перашкаджаючы іх магчымасці назіраць за паступовым адыходам Беларусі ад дэмакратыі і павагі да фундаментальных правоў чалавека.

Злучаныя Штаты і іншыя краіны, прадстаўленыя ў Мінску, паспрабавалі вырашыць пытанне разумным шляхам. Рэжым Лукашэнкі, падобна, схільны да абвастрэння праблемы. На мінулым тыдні ён зрабіў наступны крок, разбурыўшы агароджу і па сутнасці ўстанавіўшы кантроль над рэзідэнцыяй нашага пасла. Беларусь адмовіла краінам, якія маюць дачыненне да гэтай праблемы, устанавіць іх уласную ахову і абараніць іх дыпламатычныя рэзідэнцыі. Гэтае новае парушэнне было раўназначнае гвалтоўнаму захопу дыпламатычнай рэзідэнцыі.

*(Працяг на стар. 4)*

## Ксяндза расстралялі

*На тым месцы — крыж*

**Лідскія патрыёты паставілі ў горадзе крыж на месцы, дзе ў 1863 г. быў расстраляны царскімі карнікамі і закапаны ксёндз Адам Фалькоўскі. Прастаяўшы два дні, крыж быў зламаны.**

Гэта ўжо чацвёрты крыж на гэтым месцы за апошнія гады. Першыя тры былі знішчаныя па загадзе ўладаў, прычым мінулым летам шасцёра чалавек за ўстаноўку крыжа былі аштрафаваныя агулам на 18 мільёнаў рублёў. Ксяндза забілі за тое, што ён чытаў парафіянам паўстанцкі маніфест. Царскія ўлады тады забаранілі ставіць на месцы расстрэлу крыж, але ён перыядычна з'яўляўся ўначы. Магчыма, такое паўторыцца і цяпер.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Беларускі ліцэй назвалі Нацыянальным

**Вучні Беларускага гуманітарнага ліцэя датэрмінова спынілі пікетаванне ў цэнтры Мінска.**

Пікетоўшчыкі згарнулі свае плакаты пасля з'яўлення ў друку ўрадавай пастановы, згодна з якой Беларускі адукацыйна-культурны цэнтр, на базе якога дзейнічае ліцэй, ператвараецца ў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа і, такім чынам, захоўвае сваю самастойнасць. Згодна з пастановай, займацца ў ім будуць да 400 вучняў 8—11 класаў, за ліцэем захоўваецца і будынак па вул. Кірава, змаганне за які вядзецца з мінулага года. Усё гэта ўспрынята ліцэістамі як пэўная перамога.

Разам з тым ва ўрадавай пастанове яны бачаць і «падводныя камяні». У прыватнасці, выклікае непакой, што цяпер дырэктар ліцэя будзе *«прызначацца на пасаду міністэрствам адукацыі па ўзгадненні з Саветам міністраў»*, а выкладчыкаў чакае *«пераатэстацыя»*. Ліцэісты і іх бацькі падазраюць, што гэтыя палажэнні накіраваныя на тое, каб «вычысціць» педагагічны калектыў адзінага ў Беларусі цалкам беларускамоўнага ліцэя ад «непажаданых элементаў». Інакш навошта было пачынаць рэарганізацыю? — задаюцца пытаннем у бацькоўскім камітэце.

Але педагагічны калектыў ліцэя паставіўся да пастановы ўрада стрымана. Дырэктар ліцэя Уладзімір Колас назваў дакумент прыкладам разумнага кампрамісу. *«З'явілася надзея, што падобныя кампрамісы могуць стаць нормай у нашым грамадстве»*, — адзначыў Уладзімір Колас.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**




REX/ProMedia

# «За працу і дастойную заработную плату!»

**Пад такім дэвізам 15 ліпеня ў Мінску прайшоў мітынг пратэсту. У ім узялі ўдзел каля чатырох тысяч чалавек — прадстаўнікоў сталічных і рэгіянальных прадпрыемстваў.**

Ініцыятарамі акцыі сталі пяць буйнейшых прамысловых прафсаюзаў прамысловасці. Прадстаўнікі прафсаюзаў, якія выступалі на мітынгу, гаварылі пра тое, што даўгі па заработнай плаце склалі 10% фонду заработнай платы — прыкладна 1 трыльён 2 мільярды рублёў; інфляцыя з пачатку года перавысіла 18%, а да канца года дасягне 40%. Рабочыя-выступоўцы выказвалі крытыку на адрас урада і прэзідэнта Лукашэнкі. У прыватнасці, рабочы завода «Дармаш» заявіў, што яму сорамна за знешнюю палітыку прэзідэнта, у выніку якой беларусаў за мяжой успрымаюць як нацыю «хамаў і непаўнацэнных людзей».

Удзельнікі мітынгу прынялі таксама рэзалюцыю, у якой патрабуюць устанавіць памер аплаты працы на любым рабочым месцы не ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт; павысіць узровень заработнай платы на прадпрыемствах да 12—15 мільёнаў рублёў у месяц (200—250 долараў ЗША); прыняць закон аб наданні заработнай плаце статусу першачарговых плацяжоў; даць магчымасць прафсаюзам выступаць на дзяржаўным тэлебачанні, радыё, а таксама ў друкаваных СМІ.

Падобную рэзалюцыю прынялі і ўдзельнікі прафсаюзнага сходу ў Гомелі. Правесці мітынг ім не ўдалося: на стадыёне «Гомсельмаш», які выдзелілі для мітынгу ўлады, якраз адбываліся трэніроўкі футбалістаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**
**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Ваяж у чарнобыльскую зону

**14-15 ліпеня прэзідэнт праехаўся па Гомельскай вобласці.**

У аўторак А.Лукашэнка наведаў Палескі радыяцыйны экалагічны запаведнік, дзе агледзеў створаны Іванам Ціцянковым цэх па перапрацоўцы «забруджанай» драўніны, райцэнтр Хойнікі і саўгас «Судкова». У запаведніку ён пазнаёміўся з тэхналогіяй вынішчэння рэліктавых прыпяцкіх дубоў і перапрацоўкі іх на мэблю і паркет, а таксама за кароткі час здолеў праверыць выкананне 15(!) дадзеных раней мясцоваму кіраўніцтву даручэнняў.

У Хойніках публіка літаральна закідала Рыгоравіча пытаннямі наконт газіфікацыі райцэнтра, павелічэння памераў пенсіі (мільён трыста тысяч зайчыкаў людзям яўна малавата) і падобнымі. Прэзідэнт па-філасофску заўважыў, што грошы могуць быць і лішнія: *«Ну, дам я вам ещё по два миллиона, а где вы их товарами покроете?»* І дадаў, што чым больш праблем вырашаеш, тым больш узнікае новых. А потым з уласцівай яму логікай падвёў рысу, сказаўшы, што ноччу ён падняў архівы і паглядзеў, што *«все проблемы выполнены, кроме этой нашей беды с гомельским спецдиспансером. Долго мы будем его строить»*.

Між іншым, жыхарам Хойнікаў пашчасціла першым пачуць лёсаноснае рашэнне прэзідэнта: ён дае толькі два гады, каб праблема Чарнобыля была знятая назаўсёды. За гэты тэрмін сітуацыя павінна быць канчаткова *«стабилизирована»* — і ўсе будуць жыць нармальным жыццём. Рашэнне, праўда, пакуль не распаўсюджваецца на абнесеную калючым дротам 30-цікіламетровую зону вакол рэактара ЧАЭС.

Закрануў А.Лукашэнка і вельмі актуальную для «чарнобыльцаў» тэму гуманітарнай дапамогі з Захаду. Аказваецца, *«для них до большой-большой лампы все, что здесь происходит. Всё это показуха»*. І ўвогуле, калі дзяржава ўзяла гуманітарную дапамогу *«под жесткий контроль, когда нельзя украсть, тогда никто эту помощь не даёт. Лучше буду сам облегчать участь наших людей»*, — па-рыцарску заявіў прэзідэнт.

А ў сераду ў Гомелі, на рэспубліканскай нарадзе па пытаннях рэалізацыі дзяржаўнай праграмы пераадолення наступстваў аварыі на ЧАЭС А.Лукашэнка заявіў, што Беларусь разлічвае на пастаўкі прыроднага газу з Расіі і ўкраінскай электраэнергіі ў якасці гуманітарнай дапамогі, прычым у вялікіх памерах — 10—20% працэнтаў ад сённяшніх патрэбаў рэспублікі. Ці ведаюць пра гэта расіяне і ўкраінцы, прэзідэнт не ўдакладніў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Чые ў лесе шышкі?

Чытачы, мабыць, памятаюць, як у мультфільме «Чые ў лесе шышкі?» воўк вырашыў прыватызаваць лес, каб кожны прасіў у яго дазвол на збор грыбоў і ягад.

Прыкладна тое самае спрабуе зрабіць начальства калгаса «Рассвет» Кармянскага раёна Гомельскай вобласці. Вясковыя пенсіянеры атрымалі нядаўна з праўлення калгаса грозную дырэктыву наступнага зместу *(гл.копію)*.

Вось так: або дзесяць дзён адпрацуй на сенакосе, або плаці грошы. Між тым, здароўе ў гэтага пенсіянера, які адпрацаваў у «Рассвете» больш за 30 гадоў, не вельмі добрае, а пенсія не дужа вялікая (крыху больш за мільён рублёў). Таму трэба ці каго наняць на калгасныя адпрацоўкі, ці дзе ўкрасці тыя грошы, што патрабуе «правление».

Дзіўная рэч: чаму гэта ў «Рассвета», працаваць у якім няма каму, зямля ёсць, а ў селяніна яе нямашака, і скаціну хоць ва ўласным агародзе пасі? А чаму гэта калгас, якому адабраная ў сялянаў зямля была аддадзеная бясплатна, зараз патрабуе ў тых жа сялянаў грошы за карыстанне ёю?

І апошняе. Для вяскоўцаў словы «правление колхоза» ўжо даўно сталі магічнымі, таму ад імя «правления» можна загадаць любую бязглуздзіцу — і ўсе будуць выконваць.

**І.МОЛЧАН,**
*інжынер, г.Мінск*

Уважаемый(ая) ______

Правление к-за "Рассвет" ставит Вас в известность,что на личном подворье Вы имеете лошадь,корову.Правление к-за не взымает плату за пастбища,поэтому Вам необходимо отработать не менее I0 дней на уборке луга,начиная с I июля I998 г., в противном случае необходимо будет взымать плату за пасьбу скота.

Правление колхоза

# Мёртвы сезон

*(Пачатак на стар. 1)*

Мяркуецца, што пасля вяртання прэм'ер-міністра накіруецца адпачываць прэзідэнт **Аляксандр Лукашэнка**. Летась Рыгоравіч адпачываў у Сочы, дзе ўтрымліваецца за кошт дзяржавы спецыяльная рэзідэнцыя. Відаць, туды ён паляціць і сёлета.

Сакратарка кіраўніка адміністрацыі **Міхаіла Мясніковіча** аказалася не інфармаванай. *«Мы самі яшчэ не ведаем, калі пойдзе адпачываць Мясніковіч»*. І наогул, ведаць пра гэта журналістам, на яе думку, зусім неабавязкова. *«Калі патрэбна, тады і пойдзе»*, — адрэзалі ў прыёмнай Мясніковіча, якога некалі называлі самым багатым чалавекам у Беларусі.

Дзяржсакратар Савета бяспекі **Віктар Шэйман**, як паведамілі ў прэс-службе, *«не з'яўляецца прыхільнікам замежных ваяжаў, а таксама ўсходніх ці заходніх курортаў»*. Ён адпачывае ў межах СНД, ахвотна наведвае Чарнаморскае ўзбярэжжа. У прэс-службе заявілі, што В.Шэйман мае *«нармальныя ўяўленні пра адпачынак»*. Ён вельмі любіць парыбачыць, застацца адзін на адзін з беларускай прыродай. Але калі канкрэтна дзяржсакратар пойдзе адпачываць — пакуль невядома.

Міністр замежных справаў **Іван Антановіч** пойдзе ў адпачынак тады, калі яго *«адпусціць прэзідэнт»*, — так сказаў памочнік міністра. Цяпер у знешнепалітычным ведамстве зацішша, ніякіх ваяжаў за мяжу не плануецца. Як сказалі нам у аддзеле кадраў МЗС, Антановіч просіць прэзідэнта даць яму адпачынак у жніўні. Гэта любімая пара Івана Іванавіча, летась ён таксама выбраў жнівень для адпачынку ў санаторыі «Беларусь» у Друскеніках. Яшчэ з савецкіх часоў наменклатура аддавала перавагу прыбалтыйскім ландшафтам. На шчасце Івана Антановіча, дарога ў Друскенікі яму і сёлета адкрытая, бо Літва, у адрозненне ад іншых еўрапейскіх краінаў, візу яму дасць.

Віцэ-прэм'ер **Уладзімір Замяталін** асабіста падзяліўся сваімі думкамі пра адпачынак. Ён сумняваецца, што яго пусцяць у жніўні ці верасні. Ён пакуль не мае ніякіх планаў, але сказаў, што любіць бываць у нарачанскім санаторыі «Сосны». У час адпачынку віцэ-прэм'ер *«стараецца весці здаровы лад жыцця»*, — цэлы месяц не курыць і займаецца спортам.

А што з адпачынкам у апазіцыі?

Пра свае планы апазіцыянеры дзеляцца з прэсай ахвотна. Старшыня Вярхоўнага Савета **Сямён Шарэцкі** сказаў, што *«будзе падбіраць такі час для адпачынку, каб не пашкодзіць агульнай справе»*. Па словах Шарэцкага, у яго «мочакаменная хвароба» і ён вымушаны ехаць у Трускавец — *«як бы дарага гэта ні каштавала»*. Шарэцкі атрымлівае 3-мільённую пенсію. Дарэчы, з пенсіі спікера паўгады штомесяц вылічвалі 5-мільённы штраф за святкаванне Дня Канстытуцыі.

Экс-спікер **Мечыслаў Грыб** кажа, што цяпер *«усё жыццё ў адпачынку»*, бо ўлады не дазваляюць яму працаваць па прафесіі. Раней Грыб права дзіў водпуск у сочынскім санаторыі «Беларусь», але цяпер набыць туды пуцёўку не дазваляюць фінансы, бо толькі адзін білет на самалёт каштуе больш за 6 з паловай мільёнаў рублёў. Мечыслаў Іванавіч збіраецца паехаць на радзіму, у дзятлаўскі санаторый «Радон».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Перад

У фантастычнай літаратуры ёсць шмат сюжэтаў, пабудаваных на такой ідэі: паралельна існуюць некалькі сусветаў, дзе ідзе жыццё, зусім непадобнае на нашае. Аднак, каб сапраўды трапіць у паралельны сусвет, зусім неабавязкова чытаць фантастыку. І ў рэальным жыцці, побач з табой існуюць такія рэчы і з'явы, пра якія проста не думаеш, пакуль гэта не тычыцца асабіста цябе.

## Галоўны пакой

Я ўсё свае жыццё ўспрымала мінскі СІЗО выключна як помнік архітэктуры пачатку 19 стагоддзя — Пішчалаўскі замак. Я не звяртала ўвагі на людзей з вялікімі (і не надта вялікімі) абшарпанымі торбамі, якія заварочвалі з праспекта Францыска Скарыны на вуліцу Валадарскага. А цяпер звяртаю... Звяртаю міжволі, бо ведаю, куды накіроўваюцца гэтыя людзі.

Ёсць на вуліцы Валадарскага следчы ізалятар, а ў ім — пакой для перадачаў. Гэта галоўнае месца: праз яго ажыццяўляецца сувязь паміж турмой і знешнім светам. Вось туды і цягнуць людзі свае торбы. І у кожнага адна думка — толькі б прынялі перадачу, толькі б не адмовілі.

Чаму я так кажу? Таму што ведаю. Там іншых думак няма. Бо асобы, якіх трымаюць пад вартай, маюць права атрымаць адзін раз у месяц пасылку вагой да васьмі кілаграмаў (у вагу ўваходзіць усё, апрача адзежы). Але часам перадачаў пазбаўляюць за парушэнні рэжыму. Вось і думай: парушаў твой з/к рэжым ці не парушаў, падпішуць табе заяву ці не. Самыя нешчаслівыя тыя, хто вымушаны з поўнымі торбамі вяртацца дадому. Тыя, каму больш пашчасціла, займаюць чаргу да акенца перадачаў.

## У чарзе

Тут свой свет, сваё жыццё са сваімі нормамі. Пастаіш у чаканні прыёму перадачы палову дня — пачуеш рознае.

*«О Госпадзе...»* — безнадзейна ўздыхае жанчына ў чарзе. *«Госпадзе, Госпадзе!* — крыўляе яе цётка, падобная да штангіста. — *Каму ён дапамагае, твой Госпад? Адным баптыстам дапамагае! Хай бы ён тым дапамог, хто тут сядзіць, каб хутчэй выйшлі на волю»*. *«Бог усё бачыць,* — адказвае ёй кабета і зноў уздыхае. — *У Бібліі сказана...»*

*«У Бібліі, сказана!* — не дае ёй дагаварыць здаравенная цётка. — *Нічога там не сказана! Што там сказана пра забойства і згвалтаванне?! Нічога Біблія пра гэта не гаворыць»*. Цётка адчувае сябе пераможцай у тэалагічнай спрэчцы. Чарга маўчыць. У акенца цётка-штангіст перадае вялізны цэлафанавы мех добрых цыгарэт з фільтрам, замацаваны гумкамі, каб не ламаліся (у пачках перадаваць нельга), і яшчэ большы мех з гарбатай. Больш нічога. *«Хай чыфірыць сабе на здароўе!»* — гаворыць цётка і, задаволеная, выходзіць.

Стаіць у чарзе цяжарная маладзіца з падбітым вокам, трымае за руку зарумзанае дзіця. А ты (пакольki часу хапае) можаш глядзець і разважаць сабе: каму яна перадачу прынесла, хто падбіў ёй вока і ад каго яна цяжарная. Думай, не думай — усё роўна не ўгадаеш. Гэта загадкі чалавечых лёсаў.

## Восем кілаграмаў

Усе рэчы правяраюцца, прадукты ўзважваюцца і закідваюцца ў спецыяльныя мяхі — іх пасля развязуць па камерах. На прыёмцы працуюць людзі, якія ведаюць сваю справу. Адна жанчына просіць, каб прынялі газету з красвордамі і анекдотамі. *«Вазьміце, калі ласка, красворды,* — кажа яна, — *дэградуюць жа там хлопцы»*. *«Не дэградуюць,* — дастаткова ветліва адказваюць ёй з вакенца, — *будуць чытаць тое, што мы ім даем. У іх там тэлевізары стаяць»*.

А што ж ім там даюць чытаць? Гэта няцяжка высветліць у былых зняволеных: *«Даходзіла на Валадарку «Советская Белоруссия»,* — расказвае адзін, — *«Звязда», «Чырвоная змена». Вялікай папулярнасцю ў зэкаў карыстаецца «Вячэрні Мінск» — усе хочуць ведаць, што робіцца ў горадзе. Але «Вячэрні Мінск» дастаць не так проста. Трэба ўпрошваць мента. У яго стос газет, ён іх развозіць па камерах і кідае, не гледзячы што куды»*.

«Друкаваную прадукцыю» ад блізкіх і родных не прымаюць. Не прымаецца таксама адзенне колеру «хакі»: гэта колер толькі для ахоўнікаў. Ношаную бялізну і адзенне ў вас таксама не возьмуць. Тлумачыцца гэта так: зэкі пасля гэтыя рэчы не прызнаюць і кажуць, што ім замянілі новае на старое. *«Нам такія праблемы не трэба»*, — гаворыць ахоўнік.

Пры мне не прынялі тры зубныя шчоткі. Пытанне: «Новая?» Адказ: «Не». І шчотка вылятае з цэлафанавага пакунка. Усё лагічна — патрабаванні гігіены: заразы ў месцах пазбаўлення волі і так хапае. Толькі зэкі будуць сядзець і думаць: *«Што там з галавой у маіх родных — зубную пасту перадалі, а шчотку забыліся»*. Дарэчы, сярод асуджаных вельмі прэстыжна мець добрыя, якасныя, дарагія прадметы асабістай гігіены — мыла, зубную пасту, шчотку і прычындалы для галення.

Шмат хто з родных прыносіць прадуктаў больш, чым восем кілаграмаў. Дарэмныя спадзяванні: ніхто не прыме больш. Але ж мне давялося аднойчыназіраць

# Леў Сапега можа спаць спакойна

У Слоніме ўздыхнулі з палёгкай: урадавая геральдычная служба нарэшце зацвердзіла герб горада. Гэты герб («залаты леў на блакітным полі») быў нададзены Слоніму яшчэ 500 гадоў таму тагачаснымі ўладальнікамі горада Сапегамі. Цяпер, пасля зацверджання, ім можна афіцыйна карыстацца, нават у рэкламных мэтах.

Дарэчы, гарадскія ўлады вырашылі развіваць рэкламную справу. Паклікалі да сябе кіраўнікоў усіх 14 прадпрыемстваў. Хай, маўляў, даюць справаздачу, як рэкламуюць свае тавары. Але чацвёра, у тым ліку дырэктар вінзавода, праігнаравалі сходку. Тады мэр Лакцюшын афіцыйна паўшчуваў іх, «указаўшы на недысцыплінаванасць». Але навошта вінзаводу рэклама? Пры фантастычным попыце? Вось пра тое, што квас на заводзе пачалі на разліў прадаваць — пра гэта далі ў газеце рэкламную абвестку.

Ды хіба будзеш думаць пра рэкламу, калі тут хаця б людзям сякія-такія заробкі выплаціць? Дайшлі да таго, што на камвольнай фабрыцы вунь прадукты ў буфеце вымушаны адпускаць цяпер у крэдыт. На фабрыцы мастацкіх вырабаў толькі-толькі пачалі рэгулярна выплачваць грошы, але невялікія. Узялі валютны крэдыт на пяць гадоў, купілі японскія швейныя машыны. Выратоўвае міністэрства абароны, дае заказы на ваенную форму.

Форму гэтую будуць насіць і сыны швачак, але служыць ім давядзецца далёка ад Слоніма. У цяперашні прызыў слонімскіх хлопцаў ужо не будуць пакідаць служыць у мясцовай 11-ай механізаванай брыгадзе. Кажуць, што гэта выклікана гучнай справай руькапрыкладства адносна салдатаў. Камандзір роты і прапаршчык здзекаваліся з салдата, за што атрымалі адпаведна 2 і 1,5 года зняволення. Мала таго, за падобныя справы быў засуджаны нават камбат-падпалкоўнік! Людзі, праўда, тлумачаць здарэнне тым, што моладзь сёння стала вельмі нахабнай. Павінен быў афіцэр стрымацца, але не стрымаўся...

З палітычным жыццём у Слоніме больш-менш усё о'кэй. Райкам КПБ абменьвае партбілеты і рыхтуецца правесці збор подпісаў пад «хартыяй» у абарону Лукашэнкі. А камуністы з партыі Новікава—Калякіна разам з камсамольцамі начамі не спяць, ды ўсё думаюць, як адзначыць 80 гадоў «ВЛКСМ». Арткамітэт стварылі. Тым часам БПСМ, каб пасабіць міліцыі, стварае дружыну.

Што датычыць вясковай мясцовасці, дык там жыццё цяжэйшае. Над раёнам пранеслася нешта накшталт амерыканскага тарнада і вельмі нашкодзіла калгасам. У адным месцы перакуліла паляўую дайльную ўстаноўку, у іншым знішчыла 1.260 га пасеваў, знявечыла адкормачны комплекс буйной рагатай жывёлы. Прычым пацярпелі калгасы з такімі вось назвамі: Леніна, Суворава, Дзяржынскага, Прагрэс, Чырвоны партызан. Не інакш, помста за Дразды. Раней, ва ўсякім разе, такіх «тарнада» ў нас не бывала.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

*Лісты ў рэдакцыю*

## Боль должна нас сплотить

Здравствуйте, уважаемая редакция! Я уже много лет подписчик и читатель вашей газеты. Хочу в продолжение письма Г.И.Масальского «Я хотел подать в суд на государство», напечатанного 26 июня, рассказать о своем горе.

14 апреля прошлого года умерла наша дочурка Кристина. Ей было 4 года и 8 месяцев. Умерла она от злокачественной опухоли головного мозга. И я считаю, что основная причина — это абсолютная бездарность наших врачей.

Началось все еще в 1992 г. в роддоме, где девочка получила кровоизлияние в мозг. В октябре 1996 года обнаружилось, что у дочки опухоль. Мы лечили ее, старались. В 9-ой больнице сделали операцию. В последствии был еще ряд больниц, где девочка лежала. Но все безуспешно: опухоль росла.

В полном отчаянии я обратился в благотворительный фонд «Детям Чернобыля»: надеялся, что можно будет спасти дочку за рубежом. Несмотря на то, что это было сложное время для фонда (многочисленные проверки президентских ревизоров, замораживание счетов), мне сумели помочь. Фонд договорился с клиникой в Германии, и немецкие врачи взяли на лечение нашу дочь.

Но было уже слишком поздно.

Дочь моя умерла, и я еще раз повторяю, что у нас просто нет профессиональной медицины. Да, иногда поступает качественное медоборудование из-за рубежа, но это капля в море. И государство не проводит никаких программ по улучшению положения. В больницах дети страдают от рака и других болезней, а руководство страны ссорится со всем миром, обрекая тем самым наших детей на смерть. Видно только дети президента и высших чиновников застрахованы.

Оставляю в редакции свой адрес, чтобы нам с женой написали те родители, у которых дети умерли от рака и от непрофессионализма врачей. Боль должна нас сплотить.

А еще хочу, пользуясь случаем, лично поблагодарить Ирину Грушевую из фонда «Детям Чернобыля», а также коллектив авиадиспетчеров ГП «Белаэронавигация» за искреннее желание помочь в спасении нашего ребенка.

**АНТОНИК Михаил Владимирович,**
*г.Минск*

## Дапамажыце дзеткам!

Добры дзень, рэдакцыя! Звяртаюся да вас з вялікай праблемай. У Мінскім дзіцячым хірургічным цэнтры сапсаваўся апарат ультрагукавых даследаванняў сэрца. У Беларусі аналагічнага абсталявання нідзе няма — гэта адзіны апарат, які можа выявіць самыя дробныя адхіленні ад нормы ў дзіцячым сэрцы. Таму і выкарыстоўваюць яго толькі для дзетак, пачынаючы ад немаўлятаў. Самыя дасканалыя дыягназы рабіліся менавіта на гэтым апараце. На рамонт патрэбна велізарная сума грошаў — 4.700 долараў. Прашу вас, звярніцеся праз газету да людзей, бо да дзяржавы звяртацца бессэнсоўна — там грошы ёсць толькі для парадаў. Зрабіце гэта як мага хутчэй, бо тут існуе вялікая чарга, каб зрабіць дзіцяці УГД, а для хворых дзетак кожны дзень вельмі каштоўны. Апарат не працуе амаль тры тыдні. Грошы можна пералічыць на рахунак хірургічнага цэнтра: аддзяленне «Беларусбанка» № 520, код 253, рахунак № 3730000000140 (абавязкова допіс «для таракальнага аддзялення»). Можна таксама патэлефанаваць па нумары: 32-40-22. Гэта тэлефон ардынатарскай таракальнага аддзялення. Запрасіце Турчынаву Ірэну Рыгораўну. Гэта выдатны лекар-кардыёлаг і проста добры чалавек.

**КОРНЕВА Ларыса Мікалаеўна**

# турэмным мурам

выпадак, які я нават не ведаю, якім словам назваць. Загадкавы? Невытлумачальны? Раскажу проста тое, што бачыла. Назвалі нейкае прозвішча (так усіх выклікаюць: пачуеш «сваё» імя — і пачынаеш прабівацца да акна перадач). Назвалі прозвішча, і над галовамі людзей сталі перадаваць вялізную каробку, якая без усялякіх праверак, узважванняў і «шмону» схавалася ў акне. Значыць, бывае і так.

### Бацькі і дзеці

Прымаюць перадачу ў старой бабкі. Адзін батон аказаўся лішнім — перавысіў вагу ў восем кілаграмаў. Батон вяртаюць. Бабка пачынае спачатку прасіць: *«Вазьміце батон, ну, вазьміце! Хай паесць батона. У яго ж сёння дзень нараджэння»*. *«У іх дні нараджэння па дванаццаць разоў на год*, — адказваюць з акна. — *Як бацькі прыйдуць — так адразу дзень нараджэння»*. Батон не прымаюць. Бабка пачынае плакаць і праклінаць таго, хто прымае перадачы. Чарга пачынае хваляваца — бабка «падстаўляе» ўсіх, зараз раззлуе чалавека ў акне — і ўсім будзе кепска. Бабку праганяюць.

*«У дзяцінстве трэба было батонам карміць і казкі добрыя расказваць*, — гаворыць маладая прыгожая дзяўчына, — *можа, не трапіў бы сюды»*. Яна гаворыць вельмі ціха, як бы для сябе самой. Шмат хто ў гэтай чарзе з ёй не пагодзіцца, бо стаяць у чарзе пад турэмным мурам у аснoўным маці, якія ніколі не прызнаюць ні віну сваіх дзяцей, ні, тым больш, сваю ўласную віну.

Тут, у чарзе да запаветнага акенца, вы практычна ніколі не пачуеце кепскіх словаў пра зняволеных. Яны, трапіўшы за краты, у вачах родных і сяброў адразу становяцца самымі лепшымі, любімымі, дарагімі. Ахвярамі злога лёсу або кепскай кампаніі. Ледзь не анёламі.

Хоць, калі глянуць у гісторыю, яшчэ імператар Напалеон сцвярджаў, што будучы лёс дзіцяці — заўсёды ёсць справа яго маці. А амерыканскі псіхолаг Эрык Берн пісаў аб тым, што *«маці можа выхаваць, напрыклад, дзесяць паліцэйскіх. Або дзесяць бандытаў. Або пяць бандытаў і пяць паліцэйскіх. Жанчына, якой трэба выхаваць дзесяць хлопчыкаў, цалкам можа выканаць любы з гэтых праектаў»*. Маці лічаць, што яны выхоўвалі добрых сыноў.

### Свой закон

У турме, акрамя рэжыму, напісанага адміністрацыяй, ёсць закон асобны — «турэмны». І калі ты апынуўся ў гэтых сценах, то абавязкова павінен яго прытрымлівацца. Сваякі зняволеных таксама жывуць па адмысловых законах.

*«Са сваякамі асуджаных абыходзяцца так, як быццам яны таксама зэкі*, — гаворыць жанчына, сына якой чакае этап у Бабруйскую зону. — *Мы былі на спатканні. Ад таго, што бачыш усё гэта на ўласныя вочы, становіцца толькі горш. Гэта стан глыбокага прыніжэння. Атрымліваецца, што «срок мотает» не адзін чалавек, а ўсе яго блізкія»*.

Асабіста мне не давялося сутыкнуцца са зневагай з боку адміністрацыі мінскага СІЗО. Магчыма, таму, што нічога асаблівага не прасіла і не патрабавала. Усё было нармальна: далі дастаткова поўны адказ у афіцыйнай даведцы, перадачу прынялі. Самым жахлівым аказалася менавіта чаканне — у чарзе давялося стаяць з 9:00 да 12:45. Чаму так атрымліваецца — не ведаю. Кажуць, што ў Польшчы толькі перад самымі вялікімі святамі, калі наведвальнікаў шмат, сваякам даводзіцца чакаць паўгадзіны. У астатнія дні ўсё адбываецца значна хутчэй. У нас усё не так.

Але рэч не ў тым. Адна мая знаёмая здзіўлялася: *«У сяброўкі муж працуе ў калоніі, дык яны нядаўна купілі «Мерсэдэс»*. А мяне гэта не здзіўляе зусім, бо псіхалагічны стан тых, у каго родны, блізкі чалавек трапляе за краты, цяжка апісаць і вытлумачыць. Гэта адчуванне страты: чалавек быў — і раптам няма. У адзін момант ён стаў недасягальным, як быццам памёр. Мёртвым можа дапамагчы шчырая малітва, а тым, хто за кратамі, стараюцца дапамагчы іншымі сродкамі. Чалавек гатовы плаціць за ўсё: за лішні перададдзены батон, за лішнюю хвіліну спаткання.

У 1992 годзе ў Краснаярску выйшла кніга «Как выжить в советской тюрьме (инструкция для будущих заключенных)». Менавіта так яна і называлася, хоць Савецкага Саюза ўжо не было. Відаць, мелася на ўвазе, што турма як была «савецкай», так і засталася. Кіраўнік аўтарскага калектыву праваабаронца Валерый Абрамкін сам правёў шэсць гадоў у турмах і лагерах для звычайных крымінальнікаў. Вельмі дакладна акрэслены ў гэтай кнізе стан людзей, якія збіраюцца пад турэмнымі мурамі: *«Сваяком зэка быць вельмі цяжка. Гэта значыць гадамі стаяць у чэргах, цярпець прыніжэнне і ўвесь час чуць «нельга», вучыцца даваць хабар і шукаць на яго грошы. Гэта значыць засвойваць «феню» і правілы канспірацыі, адчуваць сябе асабістым ворагам улады і перапаўняцца нянавісцю да ўсяго чалавечага роду, наогул знаходзіць у сабе шмат кепскага, пра што раней нават не падазраваў»*. Усё гэта чакае сваякоў зэка. У абмен на пакуты сваякоў зэк будзе атрымліваць пасылкі, лісты, спатканні. Без знакаў увагі, без адчування таго, што цябе памятаюць, яму пражыць вельмі цяжка, часам немагчыма. Чым шчыльнейшая сувязь зэка з домам, тым менш сапсаваным ён вяртаецца. Але сапсаваным ён вернецца абавязкова — да гэтага сваякі павінны быць гатовыя.



### Прывыканне

Гаворыць жанчына, блізкі сваяк якой вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі:

*«Ён быў як вулкан. Здавалася, адзін лішні рух альбо слова — і ён выбухне. Радасці або супакою мы не адчулі ніякага. Маці слова скажа, дык ён адразу: «Ну, замаўчы, ну, перастань!». Менавіта на яе ён выліваў сваё раздражненне. Мы думалі: ён вернецца і будзе шчаслівым чалавекам. А ён вярнуўся і не знаходзіў сабе месца. Гаварыў: «Я хачу назад. Там мае сябры. Мне няма чаго тут рабіць, я сябе тут не знайду. Я гэтага ўсяго баюся»*.

І гэта не адзінкавы выпадак. Усё, што тычыцца прывыкання да вольнага жыцця, да дома, праходзіць вельмі цяжка. Былыя зэкі баяцца вольнага жыцця, у якім трэба неяк вызначацца. Там чалавек сядзеў за кратамі, яму хацелася на волю, але ж там было ўсё ясна і зразумела. Дзень пачынаецца і дзень заканчваецца... Але факт ёсць факт: чалавек там нічога не робіць, а ежу, хоць і дрэнную, але ж мае пастаянна.

*«Дарэчы, ён пісаў вельмі добрыя лісты да маці*, — працягвае мая суразмоўца. — *Але калі ён вярнуўся, то маці давялося выслухаць, напэўна, усе дрэнныя словы, якія ёсць на свеце. Была фраза: «Я тебе такую жизнь устрою, что смерть избавлением покажется». Маці толькі плакала. Зноў плакала. І зноў плакала. А пакуль ён сядзеў, яна працавала толькі на яго, нават кватэру сваю здавала, а сама жыла ў хлявушку»*.

Лепш за ўсё не ведаць усяго гэтага. Але ва ўсе часы трапіць за краты было значна лягчэй, чым выйсці адтуль. І зусім няпроста не толькі вярнуцца жывым, але і не страціць там сваёй годнасці, захаваць сваё я.

### Ніхто не ведае

*«Лічы сябе шчаслівым тады, калі зможаш жыць ва ўсіх на віду, калі муры будуць абараняць цябе, а не хаваць»*, — пісаў рымскі філосаф Сенека. Праз дзве тысячы гадоў змяніўся свет, але не гэтае правіла.

Самае жахлівае ў тым, што ніхто ніколі не можа ведаць напэўна: давядзецца яму судакрануцца з турэмным светам ці не. Ад гэтага немагчыма застрахавацца. І для кожнага можа настаць дзень, калі той свет наблізіцца да цябе, стане рэальнасцю, і ты апынешся перад турэмным мурам — з таго боку ці гэтага. І тое, і другое страшна.

**Паўліна КАЧАТКОВА**

*Даслоўна*

# Мінск шле факсы

**Рэдакцыя нашай газеты атрымала копіі лістоў, накіраваных Лукашэнкам і Антановічам на імя міністра замежных справаў Аўстрыі (гэтая краіна ўзначальвае цяпер Еўрапейскі Саюз). Лісты былі адпраўленыя факсам з Мінска ў нядзелю, 12 ліпеня — акурат напярэдадні паседжання міністраў Еўрасаюза, дзе разглядалася пытанне аб увядзенні візавых санкцыяў супраць беларускага рэжыму.**

**Мяркуем, нашым чытачам будзе цікава пазнаёміцца з поўнымі тэкстамі пасланняў прэзідэнта Лукашэнкі і міністра Антановіча.**

*Г-ну Вольфангу Шюсселю*
*Министру иностранных дел*
*Австрийской Республики*
*Председателю Совета*
*Европейского Союза*

Ваше Превосходительство!

В связи с Вашим письмом от 10 июля 1998 года хотел бы изложить позицию моей страны в отношении дипломатических резиденций в «Дроздах».

Прежде всего, сожалею о решении, принятом к обсуждению на Совете министров иностранных дел Европейского Союза в понедельник, 13 июня, предусматривающем отказ во въездных визах в Ваши страны высшим должностным лицам нашего государства.

Все-таки я надеюсь, что в этом вопросе здравый смысл и реализм возобладает над эмоциями. Я также сожалею по поводу тона обращения на мое имя. Хотел бы напомнить Вам, что Вы обращаетесь к Главе государства, пусть даже неприемлемого Вами. Но это второстепенно.

Теперь о главном. Вокруг Резиденции Президента «Дрозды», на территории которой расположены жилые дома некоторых послов, аккредитованных при правительстве Республики Беларусь, существует не только забор, но осуществляется комплекс мер безопасности, соответствующих мировым стандартам.

О нарушении «официальной печати» на домах послов речи быть не может в связи с тем, что мы находимся в процессе переговоров, которые по моему абсолютному убеждению при Вашем ответном желании будут успешными.

Я гарантирую Вам, что моя страна предоставит Полномочным представителям государств Европейского Союза в Минске аналогичные условия, какие имеют наши представители в странах Европейского Союза, а при достижении договоренности, возможно гораздо лучшие, полностью соответствующие их потребностям и пожеланиям.

Имею честь подтвердить Вам приверженность Республики Беларусь международным актам, которые она подписала, в том числе тем, которые регулируют пребывание иностранных дипломатов на нашей территории. Не будучи инициатором отъезда послов государств Европейского Союза из Минска, тем не менее я заявляю о готовности Беларуси пригласить государства Европейского Союза продолжить диалог в интересах поиска новых вариантов размещения резиденций глав дипломатических миссий, приемлемых для обеих сторон.

На пути строительства своей государственности и суверенитета, который не является легким для Беларуси, мы твердо и непреклонно готовы строить новую Европу в тесном сотрудничестве и дружбе со всеми народами.

В наших стремлениях и чаяниях мы надеемся на понимание Европейского Союза. Хотелось бы воспользоваться случаем, чтобы пожелать Вам, господин Министр, успехов в Вашей нелегкой и ответственной для судеб нашего континента функции Председателя Совета Европейского Союза.

С уважением,
**Александр ЛУКАШЕНКО,**
**Президент Республики Беларусь**

*(Ліст друкуецца на мове арыгінала)*

Шаноўны сп.Шусель!

Ад імя Прэзідэнта маю гонар паведаміць Вам наступнае:

**Першае.** Беларусь заяўляе, што будзе прытрымлівацца Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах у дачыненні да рэзідэнцый амбасадараў у Драздах.

**Другое.** Рабочыя, якія праводзяць там рамонт, больш не будуць зносіць ніякіх агароджаў і не будуць зрываць пячаткі.

**Трэцяе.** Гарантуецца свабодны доступ супрацоўнікаў пасольстваў у рэзідэнцыі; асабістыя рэчы амбасадараў застануцца недатыкальнымі на ўвесь час правядзення перамоваў наконт выдзялення новых памяшканняў.

**Чацвёртае.** Мы заяўляем, што ўрад Беларусі гатовы дапамагчы дзейнасці амбасадаў у гэтым напрамку ўсімі магчымымі сродкамі. З нашага боку не будзе ніякіх ультыматумаў, і мы спадзяёмся не атрымліваць ультыматумаў у адказ.

**Пятае.** Мы хацелі б, каб пасол Германіі Хорст Вінкельман быў прызначаны пасрэднікам у перамовах з мэтай дасягнення разумнага вырашэння канфлікту.

Дазвольце мне таксама падзякаваць за гэтую магчымасць размовы з Вамі і выказаць спадзяванне, што вельмі складаныя і трагічныя непаразуменні вакол канфлікту ў Драздах будуць вырашаныя шляхам дыялогу і супрацоўніцтва.

Я жадаю Вам поспеху ў Вашай высакароднай місіі, і я ўпэўнены, што тэрмін Вашага старшынства будзе вельмі важкім укладам у працэс еўрапейскай інтэграцыі.

Шчыра Ваш
**Іван АНТАНОВІЧ, міністр**
**замежных справаў**
**Рэспублікі Беларусь**

*(Ліст друкуецца ў перакладзе з англійскай мовы)*

# Адказ Злучаных Штатаў на парушэнне Беларуссю міжнароднага заканадаўства

(Пачатак на стар. 1)

На працягу апошняга тыдня Злучаныя Штаты і краіны Еўрапейскага Саюза ў прыватных кантактах з рэжымам Лукашэнкі адзначылі, што неўзнаўленне бяспекі рэзідэнцыяў можа вымусіць нас да дзеянняў у адказ. Еўрапейскі Саюз наклаў абмежаванні на ўезд большасці вышэйшых беларускіх афіцыйных асобаў. Азначаным чыноўнікам ці тым, хто іх заменіць, будзе адмоўлена ў выдачы візаў.

Злучаныя Штаты поўнасцю адабраюць абмежаванні, уведзеныя Еўрапейскім Саюзам, і падобным жа чынам абмяжоўваюць уезд беларускіх афіцыйных асобаў у ЗША. Ва ўсіх запытах на ўезд, за выключэннем візітаў да міжнародных арганізацыяў, размешчаных у ЗША, будзе хутчэй за ўсё адмоўлена. Мы прыпынім пэўную колькасць праграмаў, у якіх удзельнічаюць супрацоўнікі беларускага ўрада, у тым ліку праграмы па абмене, некаторыя мерапрыемствы па аказанні дапамогі, а таксама праграмы «ваенныя — ваенным» на ніжэйшым узроўні.

Нашым імкненнем альбо жаданнем не з'яўляецца бачыць Беларусь ізаляванай ад астатняй сусветнай супольнасці. Рэжым Лукашэнкі ізаляваў Беларусь сваімі ўласнымі дзеяннямі. Мы зноў заклікаем Беларусь паважаць яе міжнародныя абавязацельствы, замежныя прадстаўніцтвы і фундаментальныя правы сваіх грамадзянаў, і зноў далучыцца да еўрапейскага супольніцтва дэмакратычных дзяржаваў.

*Вашынгтон, 14 ліпеня 1998 г.*

# Вінаватай зрабілі Варшаву

**Міністэрства замежных справаў надзіва аператыўна і ў даволі рэзкай форме адрэагавала на паведамленне, што ў Польшчы распрацоўваецца праект адкрыцця радыёстанцыі «Вольная Беларусь».**

Нагадаем: польскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што неўзабаве ў Беластоку пачне працаваць радыё «Вольная Беларусь», якое будзе вяшчаць на сярэдніх хвалях па восем гадзін у дзень; фінансуюць праект ЗША і Еўрасаюз (нашая газета пісала пра гэта ў мінулым нумары). Натуральна, што стварэнне радыё — справа не аднаго дня, аднак беларускі МЗС угледзеў у публікацыі *Gazety Wyborczej* *«попытку увязать принятие решения о начале работы этой радиостанции с так называемыми «репрессиями белорусского правительства в отношении западных дипломатов в Минске»*.

Эксперты беларускага МЗС не заўважылі выказванняў дарадцы прэм'ер-міністра Польшчы па пытаннях знешняй палітыкі Е.М.Навакоўскага, што польскі ўрад не мае да гэтага праекта ніякага дачынення і што працаваць на новым радыё будуць беларусы, а не палякі, затое пішуць: Е.М.Навакоўскі *«фактически заявил о позитивном отношении польского правительства к... использованию для вещания на соседнее государство передающих устройств «Польского Радио» в Белостоке. Таким образом, речь идет о публичной демонстрации намерения использовать искусственно нагнетаемую атмосферу вокруг «Дроздов» для оказания прямого информационно-пропагандистского давления на Республику Беларусь»*. Нашае знешнепалітычнае ведамства лічыць, што публікацыі ў польскіх незалежных газетах і ўвогуле *«все эти действия»* ідуць ураўрэз з нядаўняй заявай афіцыйнай Варшавы, якая не падтрымала візавыя санкцыі Еўрасаюза.

МЗС Беларусі заяўляе, што адкрыццё радыё «Вольная Беларусь» *«не будет содействовать развитию традиционно добрососедских белорусско-польских отношений»*. Значыць, неадназовыя выпады Лукашэнкі і Шэймана на адрас Польшчы, выгнанне з Беларусі прафсаюзнай дэлегацыі «Салідарнасці» і іншыя падобныя дзеянні беларускіх уладаў — гэта ўсё праявы «традыцыйнага добрасуседства»? Што ж, працытуем яшчэ раз словы С.Шушкевіча, які лічыць, што радыё «Вольная Беларусь» не пагоршыць адносіны паміж Мінскам і Варшавай, бо *«горш ужо проста не можа быць»*.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Санкцыі дайшлі да правінцыі

**Наступствы недружалюбнай знешняй палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі ўжо адчулі нават у Кобрыне**

Нядаўна ўлады гэтага райцэнтра Брэсцкай вобласці атрымалі паведамленне, што запланаваны візіт мэра нямецкага горада-пабраціма Ульсэна не адбудзецца. Нямецкае кіраўніцтва параіла яму ўстрымацца ад візіту ў сувязі з палітычнай напружанасцю.

Супрацоўніцтва паміж Кобрынам і Ульсэнам працягваецца ўжо 9 гадоў. Пастаянна адбываўся абмен дэлегацыямі, а нямецкія калегі правялі ў Кобрыне нямала семінараў, падчас якіх дзяліліся з мясцовымі ўладамі сваім досведам вядзення гарадской гаспадаркі. Цяпер супрацоўніцтва пад пагрозай.

Кобрынскія чыноўнікі, аднак, спадзяюцца, што міжнародны скандал не паўплывае на іхнія адносіны з уладамі швейцарскага горада Гляруса. На швейцарскія грошы ў Кобрыне вядзецца будаўніцтва гатэля «Суворaў», які будзе адпавядаць усім еўрапейскім патрабаванням. Мяркуецца, што пасля заканчэння будаўніцтва гатэль будзе перададзены ў карыстанне адной з буйных еўрапейскіх турыстычных фірмаў. Швейцарцы плануюць занесці кобрынскі гатэль у міжнародныя турыстычныя каталогі і прапаноўваць яго падарожнікам, якія накіроўваюцца на Усход, у якасці добрага і надзейнага месца прыпынку. У мэрыі Гляруса запэўнілі, што ўсе запланаваныя **культурныя і гуманітарныя праграмы** паміж гарадамі-пабрацімамі будуць абавязкова выкананыя.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*ДАГЕРРОТИП*

**Семен БУКЧИН**

# Торги на костях

Лично мне непонятно, почему главный белорусский начальник не высказал до сих пор своего отношения ко всей этой возне вокруг царских костей, которая сегодня должна завершиться в Петербурге. Война с послами не должна заслонять этого немаловажного события. Как-никак, а хоронят нынче не только царя «Великия, Малыя», но и «Белыя Руси». Кроме того, есть возможность вставить очередной фитиль Ельцину, а, следовательно, набрать новые очки, повысить «славянский рейтинг» и т.д.

Самому, пожалуй, ехать не следует. Но почему бы не послать официальную делегацию Национального собрания Республики Беларусь? Малофеев очень неплохо бы смотрелся у царского гроба. А поскольку Ельцин, бывший член Политбюро ЦК КПСС, не торопится, то бывший первый секретарь ЦК КПБ как раз и символизировал бы примирение гражданское, окончание, так сказать, войны красных и белых.

Николай, конечно, хреновым начальником был, распустил подчиненных, государство, можно сказать, прошляпил. Но идея-то имперская, она правильная была!

Впрочем, я не уверен окончательно, что нашему правителю стоило упускать такой шанс. Его появление на церемонии в Петербурге внесло бы окончательную ясность в запутанную проблему наследования власти не только в России, но и на всем, как теперь говорят, постсоветском пространстве. Народ и без того подсознательно чувствует, что власть нужно отдать человеку решительному, на которого можно положиться. Вот и мечется между генералами. А тут появляется наш, молодой, сильный, энергичный! И всем все сразу становится понятным. Вот он, тот, кого все ждали! А что не генерал, так это дело у нас наживное. Надо будет — генералиссимусом сделаем. Шкловскую династию провозгласим!

Тем более, повторяю, что историческая «зацепка» имеется. Те же «Белыя Руси»... Когда-то империя шла-расширялась от Москвы, а теперь есть шанс пойти ей от Минска. Почему бы и нет? Разве не здесь ведет борьбу с супостатами «Славянский набат»? Разве не здесь передовой редут на пути расширяющей свое влияние Речи Посполитой и NATO? Следовательно, можно говорить о том, что центр борьбы за «единую и неделимую» теперь переместился в Минск.

А раз так, то вполне натурально, что не едут в Петербург Ельцин, Лужков, не говоря уже обо всей этой «банкирско-жидовской хевре». Нечего им там делать! В святом деле не им участвовать! Тем более Ельцину, разрушителю Ипатьевского дома...

Два слова о святости. Жаль по-человечески Николая Александровича и Александру Федоровну, жаль их юных дочек и мальчика Алексея... Но что делать, если в России конец XVIII века, когда рубили голову Людовику XVI, пришелся на 1918 год. Тут все происходит с опозданием...

Но речь не о них. О династии. После смерти в 1922 г. замечательного русского публициста Власа Дорошевича в одном из петроградских журналов был опубликован его фельетон «Николай II». Может быть, это конъюнктура «революционного времени», попытка подстроиться под него? Тем более, что автор, «король фельетонистов», болен, растерян? Ведь менее десяти лет назад, в дни празднования трехсотлетия Дома Романовых, он же занял весь номер сытинского «Русского слова» своим восторженным, апологетическим очерком об истории царского рода. Дорошевича не спросишь... Но у кого из нас не поменялись оценки, взгляды, пристрастия последних лет?

Дорошевич говорит о вырождении Романовых. Начинает с Павла I:

*«Итак, родоначальник фамилии — сумасшедший.*

*Его старший сын Александр I — отцеубийца. На втором сыне, Николае, следует остановиться...*

*В воспоминаниях Герцена — это зверь с лицом очковой змеи.*

*В воспоминаниях Толстого — это «Николай Палкин». Его сын, Александр II, отличается особенной распущенностью нравов...*

*Его старший сын, Николай, умирает от чахотки. Второй сын, Александр III, был алкоголиком.*

*Второй сын Александра III — Георгий Александрович — умирает от чахотки.*

*Вот вам родословная Николая II. Тут мы имели сумасшедшего, тяжкого преступника, человека-зверя, сладострастника, алкоголика...»*

Один из эпизодов:

*«9-е января — Кровавое Воскресенье... Что же в это время делает Николай? Он едет в Царское Село в сопровождении директора театров князя Волконского и доказывает ему необходимость отдать главную роль в «Баядерке» г-же К. Это — миросозерцание полкового командира гвардейского полка».*

Если это и конъюнктура «революционной эпохи», то нельзя не признать, что у нее есть свой счет к Романовым.

Нынче на царских костях идет отчаянный торг. Все смешалось в кучу. Но вот уже разворачивается процессия. Зрелище жуткое: впереди превратившиеся в неистовых славян православные коммунисты рядом с доморощенными фашистами, шовинистами и черносотенцами всех мастей... Чуть поодаль, зажав носы и отворачивая лица, идут российские либералы-государственники, твердящие о необходимости «национального примирения» и важности «закрытия исторической страницы».

И ничего страшного, что патриарх и российский президент не поехали... Мысленно они там, с коллективом.

А вот официальная «Белая Русь», похоже, шанс упустила. И зря...

## Расія не прызнаецца ў акупацыі

**Расія стала адзінай краінай, якая афіцыйна адмовілася азнаёміцца з прынятай латвійскім парламентам дэкларацыяй аб акупацыі Латвіі.**

Як паведаміў прэс-сакратар латвійскага МЗС, Расія адмовілася чытаць дакумент і адправіла яго назад без каментарыяў. На мове дыпламатаў гэта азначае вельмі негатыўную рэакцыю. Дэкларацыя аб акупацыі была разасланая ва ўсе дзяржавы, з якімі Латвія падтрымлівае цесныя дыпламатычныя адносіны. Мэтаю акцыі было прыцягнуць увагу сусветнай грамадскасці да нялёгкага мінулага гэтай краіны.

## Ільіча – на вагу

**Дэпутаты гарадской думы Вентспілса (Латвія) будуць вырашаць лёс помнікаў Леніну і Гагарыну, якія былі пастаўленыя на плошчы гэтага партовага горада ў савецкія часы.**

Як паведамляе мясцовая прэса, у Вентспілскую мэрыю звярнулася адна латышская фірма з выгаднай прапановай — набыць бронзавыя помнікі па 700 долараў за тону.

## 23 тысячы рэстаранаў носяць яго імя

**У Нью-Гэмпшыры ва ўзросце 89 гадоў памёр заснавальнік знакамітай сеткі рэстаранаў хуткага харчавання Рычард МакДональд.**

Кіраўніцтва кампаніі распаўсюдзіла заяву, у якой ад імя супрацоўнікаў і пастаўшчыкоў «МакДональдса» выказвае ўдзячнасць заснавальніку фірмы, які наўрад ці мог уявіць сабе цяперашнія сусветныя маштабы ягонага прадпрыемства.

Свой першы рэстаран Рычард і ягоны брат Морыс па мянушцы Мак адчынілі ў 1940 г. у Сан-Бернардына (Каліфорнія). Пасля вайны яны скарацілі меню і перайшлі да сістэмы абслугоўвання, пры якой кліент мог атрымаць 15-цэнтавы гамбургер і 10-цэнтавую порцыю смажаной бульбы, не выходзячы з аўтамабіля. У 1955 г. браты перадалі кіраўніцтва справай Рэю Кроку, які разгарнуў такую актыўную дзейнасць, што сетка рэстаранаў «МакДональдс» стала найбуйнейшай у свеце. Цяпер у ёй 23 тысячы пунктаў у 111 краінах.

## Прадукты з неба

**ААН плануе выкарыстаць авіяцыю для аказання дапамогі галадаючым жыхарам Судана.**

Як паведамляе агенцтва *Reuter*, штомесяц 12 самалётаў будуць скідваць у паўднёвай частцы Судана 10 тысячаў тон харчоў. Цяпер у гэтым рэгіёне галадае больш за 2 мільёны чалавек, а дастаўка харчовай дапамогі наземнымі шляхамі немагчымая з-за грамадзянскай вайны.

## Сямейны бюджэт еўрапейца

**Жыхары Заходняй Еўропы ўсё менш трацяць грошай на ежу, алкаголь і тытунь. Прыярытэтам становяцца ахова здароўя і адпачынак.**

Як паведамляе агенцтва *Eurostat*, спажывецкі бюджэт заходніх еўрапейцаў за апошнія 20 гадоў вырас амаль напалову і складае сёння ў сярэднім прыкладна 33 тысячы долараў у год у разліку на сям'ю з двума дзецьмі (без уліку сацыяльных выплат). Калі раней ежа, напоі і тытунь забіралі каля трэці гэтай сумы, то цяпер — толькі 20%. На ахову здароўя больш за ўсіх трацяць немцы (да 15%), менш за іншых — брытанцы (2%), што не дзіўна: у Аб'яднаным Каралеўстве шырока развітая сістэма бясплатнай медыцыны і сацыяльнай дапамогі састарэлым і інвалідам. Што ж асабліва заўважна: ва ўсіх без выключэння краінах Еўрасаюза імкліва растуць расходы на турызм і іншыя віды «актыўнага» адпачынку. У Англіі, Германіі і Галандыі людзі расходуюць на падарожжы столькі ж, колькі і на ежу.

## Адзін тавар, дзве цаны

**Адзіная еўрапейская валюта з'явіцца ў безнаяўным абарачэнні 1 студзеня 1999 года, аднак ужо гэтай восенню цэны ў гатэлях і вялікіх крамах будуць пазначацца ў еўра.**

На мінулым тыдні Еўрапейская камісія вырашыла, што спажыўцоў трэба прывучаць да новых грошай паступова. Таму ўжо ў кастрычніку-лістападзе ў Еўропе можна будзе ўбачыць паралельныя цэннікі: у нацыянальнай валюце і ў еўра. Прычым Еўракамісія абавязкова патрабуе ў пераходны перыяд указваць курс еўра да «родных» грошай.

Зрэшты, усё гэта будзе мець у большай ступені псіхалагічнае, чым практычнае значэнне. Як вядома, на першым этапе еўра будзе толькі безнаяўным, а манеты і купюры пойдуць у ход толькі ў 2002 г.

## Уцяклі з турмы

**У Бразіліі 63 асуджаныя збеглі з турмы Аркайю.**

Пасля дэталёвай падрыхтоўкі ўцекачы выбраліся на волю праз падземны тунель. Цікава, што турма Аркайю — адна з самых непрыступных у краіне, тут утрымліваюцца асабліва небяспечныя злачынцы. Адміністрацыя турмы знаходзіцца ў поўнай разгубленасці, а паліцэйскія навакольных раёнаў ловяць уцекачоў, восем з якіх ужо затрымалі.

## Какаінавы рэкорд

**Калумбійская паліцыя канфіскавала днямі рэкордную за ўсю гісторыю краіны колькасць какаіну.**

Атрад па барацьбе з наркотыкамі горада Картагена знайшоў у адным з партовых памяшканняў цэлае сховішча какаіну — каля сямі тонаў наркотыка. Какаін на суму сто мільёнаў долараў быў запакаваны ў металічныя кантэйнеры з надпісам «Высакаякасны нейлон». Паліцыя лічыць, што груз рыхтавалі да адпраўкі ў ЗША.

*Падрыхтавалі* **Алена СУРКО, Магдалена НЕПАКАЙ**

# Чего боится президент Ельцин

На днях президент России Борис Ельцин заверил россиян: у государства достаточно сил, чтобы противостоять любым попыткам захвата власти. Что же встревожило президента и есть ли у него основания для подобных опасений?



*15 февраля 1998 г. Русский национальный союз провел первый легальный съезд. Сегодня число членов этой военизированной организации оценивается в 30-50 тысяч человек.*

Обеспокоенность президента активизацией экстремистских сил в России простирается столь далеко, что он предал гласности собственные опасения. Более того — Ельцин, сам того не желая, как бы подтвердил упорно циркулирующие слухи о готовящемся в России перевороте. Или, во всяком случае, допустил возможность такого варианта развития событий. Многие связывают «экстремистское» высказывание президента с предоставлением России стабилизационного кредита. Мол, президент, потеряв надежду, использовал «страшилку переворота» для ускорения процесса получения необходимых денег. Отчасти, быть может, оно так и есть. Но если проанализировать сегодняшнюю ситуацию, то оснований для тревоги у президента действительно более чем достаточно.

В дополнение к давно набившей оскомину «рельсовой войне», финансовому кризису и комиссии по импичменту (что само по себе является достаточной причиной для головной боли) в России на сегодняшний момент имеется по меньшей мере три силы, способных при определенном стечении обстоятельств предпринять попытку государственного переворота.

Для начала не следует сбрасывать со счетов коммунистов, уже в мае громогласно заявивших о «смене тактики». Оскандалившаяся после истории с утверждением Кириенко КПРФ решительно «завязала» — по крайней мере, на словах — с политикой «соглашательства» и, припомнив основательно забытые заветы теоретиков марксизма-ленинизма, вознамерилась двинуться в массы. И о чем также не следует забывать — именно коммунистическая партия инициировала создание комиссии по импичменту.

Во-вторых, загадочная гибель генерала Рохлина неизбежно способствовала радикализации настроений как в рохлинском Движении в поддержку армии, так и оппозиции в целом. Это наглядно продемонстрировал чрезвычайный съезд ДПА, на котором новым руководителем движения был избран хорошо известный своими крайними взглядами коммунист-радикал Виктор Илюхин. Он сразу же заявил, что движение по-прежнему будет добиваться предотвращения политики, «которая ведет страну к гибели». Правда, при всей своей любви к красному словцу даже Илюхин говорит (пока что) только о законных методах. Однако, учитывая состав и специфику ДПА, можно утверждать, что оно представляет-таки определенную опасность для существующей власти. В ряды движения влилось, как известно, значительное число кадровых офицеров, оставленных за бортом военной реформой, лично обиженные Ельциным генералы-отставники (И.Родионов, А.Макашов) и казачество (сказалась политика по отношению к казакам в пограничных с Чечней районах). Все они обладают как нужными связями, так и богатым опытом ведения военных действий.

Существует, наконец, «Русское национальное единство» Баркашова и множество примыкающих к нему «военно-спортивно-патриотических организаций». Можно сколько угодно ужасаться или, напротив, иронизировать относительно их символики, униформы и заявлений, но количество членов РНЕ настораживает. По некоторым данным, число членов организации составляет в настоящее время сотни тысяч (!) человек, а жесткая иерархическая структура, железная дисциплина и система конспирации превращают баркашовцев в некое подобие боеспособной армии.

Вряд ли так уж случайно в последние недели некоторые российские телеканалы «прокатили» ряд показательных сюжетов, посвященных деятельности «фашизоидов» различных мастей. Кстати, по данным экспресс-опроса программы «Итоги», возрождение фашизма в России считают возможным 65% населения.

Так что беспокоится президент отнюдь не напрасно. Только вот претензии его к министерству юстиции выглядят мелко. Федеральное ведомство может, разумеется, аннулировать регистрацию или отказать в ней политической организации, в программных документах которой черным по белому прописан призыв к свержению власти. Но кто при этом может поручиться, что региональные властные структуры считают так же? Скажем, те же баркашовцы, московской организации которых отказано в регистрации, совершенно легально действуют в 24 регионах России.

Излишне говорить о том, что условия для активизации экстремистов всех мастей в нынешней кризисной России складываются благоприятные как никогда. И главная опасность для власти заключается в том, что на определенном витке кризиса все они, на время забыв об идейных разногласиях, могут консолидировать свои усилия. Вот этого-то и боится президент, понимающий, что при существующем нынче в России параличе политической воли весьма многим захочется полечиться мундиром и дисциплиной. Со всеми вытекающими отсюда последствиями.

**Б.БАЛТЕВ**

# Франция: деканша, агентка, контролерша...

**В крупный политический скандал грозит вылиться во Франции дискуссия о правилах орфографии и грамматики, касающихся употребления в женском роде профессий, должностей и званий.**

Выпущенный недавно министерством национального образования Франции циркуляр, предписывающий именовать женщину-директора «директрисой», библиотекаря — «библиотекаршей», программиста — «программисткой» и т.д., вызвал бурю гнева со стороны Академии наук Франции. Эта высшая научная инстанция, призванная блюсти чистоту родной речи, пригрозила обратиться в Конституционный совет.

При этом «бессмертные», как называют во Франции членов Академии, не скупятся на резкости в адрес высших должностных лиц, выступающих за модернизацию языковых норм. Академик Жан Дютур обвинил премьер-министра Лионеля Жоспена в «угодничестве перед своим гаремом», имея в виду, что добрая треть членов правительства Франции — женщины. Постоянный секретарь Академии Морис Дрюон заявляет, что «феминизация» названий никак не связана с проблемами равноправия мужчин и женщин и упрекает правительство в обычной безграмотности.

В своих возражениях по существу академики подчеркивают, что введение женского рода посредством указа не только размоет устоявшиеся языковые нормы, но и приведет к вульгаризации языка, к уничижительному звучанию придуманных слов. Их самый убедительный довод — слово «мэтр», которым обращаются к судьям, адвокатам, нотариусам. Превращение «мэтра» в «мэтресс» может вызвать только смех, поскольку другое значение этого слова во французском — любовница, сожительница. Тем не менее в министерском циркуляре официально предписывается употребление «мэтресс».

Впрочем, только активистки женского движения упрекают академиков в консерватизме и «сексизме». Большинство помнит предпринятые Академией усилия по спасению французского языка от засорения американизмами, жаргонными словами, безграмотными рекламными словечками.

**Александр КОНДРАШОВ**

# Немцы учатся писать

**С августа нынешнего года в Германии, согласно решению Федерального конституционного суда страны, вводятся новые правила правописания.**

Новые правила были утверждены министрами культуры и образования федеральных земель ещё в прошлом году. Конституционный суд страны лишь подтвердил правомочность принятых министрами решений, согласно которым с августа нынешнего года в учебных заведениях Германии школьники начнут читать и писать по новым правилам. Реформа несколько облегчает правописание. Особенно это касается сложных и заимствованных слов. За написание же по старым правилам пока никого наказывать не будут. Старая орфография сохранится в Германии до 2005 года.

**Б.П.**

# Вынаходнік з турэмнай адзіночкі

**Уладзімір АРЛОЎ**

Пецярбург, славутая вясна 1829 года. Петрапаўлаўская фартэцыя, славутая турма для палітычных. У камеры-адзіночцы Кранверкскай курціны, адкуль адкрываўся шлях толькі ў магілу альбо ў пажыццёвую высылку, з'явіўся новы вязень. У рэгістрацыйнай кнізе пісар каліграфічна адзначыў: *«минскій дворянинъ Казимиръ Чѣрновскій, государственный преступникъ»*.

Памыляецца той, хто думае, нібыта ў тыя часы не існавала стукачоў. На жаль, прадстаўнікоў гэтай старажытнай прафесіі і тады не бракавала сярод сяброў радыкальных партыяў і арганізацыяў. Дзякуючы стараням клопату аднаго з такіх ураджэнцаў маёнтка Карытніца Ігуменскага павета Чарноўскі быў арыштаваны за прыналежнасць да «Нацыянальнага патрыятычнага таварыства». Яго дапытваў сам шэф жандараў генерал А.Х.Бенкендорф, які ветліва прапанаваў беларускаму шляхціцу таксама запісацца ў платныя агенты «ахранкі». Тым разам у Аляксандра Хрыстафоравіча (трэба сказаць, вялікага майстра гэткіх угавораў) атрымалася асечка. Імператар Мікалай І налажыў на справе жорсткую рэзалюцыю. Гэты сюжэт мог бы, як і сотні падобных, бясслаўна завяршыцца. Але Казіміра Чарноўскага, апрача праектаў справядлівага пераўтварэння грамадства, наведвалі ідэі і з зусім іншае сферы.

У жніўні таго самага года на стол цару легла папера з подпісам ужо забытага дзяржаўнага злачынцы. Мікалай І не даў веры вачам: гэта была не просьба аб памілаванні, а прапанова пабудаваць дзеля ўмацавання расійскага флоту падводны карабель.

«У 1825 годзя вынайшаў падводны карабель, — пісаў Чарноўскі, — і гатовы, маючы неабходныя матэрыялы і людзей, за 40 дзён збудаваць субмарыну даўжынёю на некалькі сажняў, якая будзе плаваць пад вадой і апускацца на марское дно. Яна будзе надзвычай карысная і ў вайсковых дзеяннях, бо дасць магчымасць падплываць пад непрыяцельскія караблі і знішчаць іх або рабіць у нечаканых для ворага месцах узброеныя напады». Далей вязень адзначаў, што, жывучы ў Францыі, ён бачыў праекты падводных караблёў, але паставіўся да іх скептычна, бо французскія інжынеры разлічвалі будаваць субмарыну з дрэва.





*На ілюстрацыях: субмарына Казіміра Чарноўскага. Сучасны малюнак паводле запісаў інжынера.*

Ён жа прапануе зрабіць свой падводны карабель цалкам з металу.

Тады якраз ішла чарговая расійска-турэцкая вайна, і імператар выклікаў да сябе высокапастаўленых чыноўнікаў з вайсковага ведамства.

Вязню загадалі даць падрабязнае апісанне праекта. Калі не лічыць паперы і пёраў, узамен не прапаноўвалася нічога. Як без адмысловых інструментаў, кніг і даведнікаў Чарноўскі здолеў за тры тыдні скласці аб'ёмістае абгрунтаванне першага ў Расійскай імперыі праекта падводнай лодкі, — застаецца загадкаю. Тым не менш, ён прадугледзеў практычна ўсё — ад арыгінальнай сістэмы вёслаў, якія складаліся і раскрываліся накшталт парасонаў, да балонаў з паветрам для асвяжэння ўнутрыкарабельнай атмасферы. Узброіць лодку меркавалася магутнай мінай.

Упершыню ў сусветнай практыцы беларус Казімір Чарноўскі прапанаваў будаваць субмарыны з металу. Ён жа тэарэтычна абгрунтаваў мэтазгоднасць нададня падводным караблям абцякальнай цыліндрычнай формы. На чвэрць стагоддзя раней за галандца ван Эльвіна Чарноўскі распрацаваў канструкцыю перыскопа. Апрача таго, ён вынайшаў амартызатар для донных пагружэнняў, глыбінную міну з хімічным запалам і вадалазны скафандр.

Генерал-маёр корпуса інжынераў шляхоў зносін А.Базен, якому перадалі на разгляд чарцяжы і тлумачэнні вязня, быў чалавек адукаваны, але меў невялікі недахоп: ён сам марыў спраектаваць субмарыну, што і прапанаваў імператару. (Дзеля справядлівасці заўважым, што ёсць сведчанні, нібыта генерал не ведаў пра трагічны лёс нашага земляка і лічыў яго за канкурэнта, які знаходзіцца на волі.)

А тым часам дзяржаўны злачынца, якога можна назваць і дзяржаўным вынаходнікам, цярпліва чакаў калі не вызвалення, дык хаця б палягчэння турэмных умоваў. Замест гэтага прыйшоў загад аб пераводзе ў Шлісельбургскую цытадэль, дзе рэжым быў яшчэ страшнейшы.

Згодна з інструкцыяй камендант загадаў забраць у Чарноўскага ўсе пісьмовыя прылады. Бюракратычная машына зарыпела толькі праз дзесяць бясконцых месяцаў, калі ў адзіночку зноў прынеслі паперу. Не прайшло і двух з паловаю гадоў, як кола гэтае махіны яшчэ раз скранулася з месца і ад ваеннага міністра прыйшоў запыт пра выкананне працы. Вязень глянуў на пасланцаў, але гаварыць з імі не стаў. За гэты час ён, бясконца ўдасканальваючы свой праект, паспеў зрабіць больш за дзесятак варыянтаў, а потым у прыступе роспачы ўдарыў сябе ў грудзі нажом і амаль год праваляўся на нарах пад наглядам турэмнага лекара.

У 1834 годзе рэгістрацыйная кніга цытадэлі папаўнялася новым запісам: мінскі шляхціц Чарноўскі адпраўлены ў высылку ў Архангельск. На свежым паўночным паветры да нашага суайчынніка вярталіся творчыя здольнасці, і ён не без поспеху займаецца праектаваннем жылых будынкаў, у выніку чаго атрымлівае пасаду намесніка гарадскога архітэктара і чын калежскага асэсара.

Здавалася б, пасля пяці гадоў адзіночнай камеры можна і супакоіцца. Але такі *modus vivendi* не для гэткіх характараў. Казімір запрашае да сябе на кватэру двух высланых за ўдзел у вызвольным паўстанні 1830—1831 гадоў суайчыннікаў і, разліўшы па шклянках грог, прапануе захапіць порт і ўзяць на караблях курс на Гішпанію, каб дапамагчы пірынейскім рэвалюцыянерам.

Адзін з удзельнікаў змовы моўчкі закусвае, а вярнуўшыся дадому — сядае пісаць данос. Справа Чарноўскага зноў трапляе на царскі стол. Рэзалюцыя: пажыццёвая высылка з найсуровейшым наглядам у Вяцкую губерню. Праз дзесятак гадоў на могілках павятовага гарадка Сарапула з'явіцца свежая магіла з каталіцкім крыжам.

Напрыканцы жыцця Казімір Чарноўскі мог бы знайсці нейкае суцяшэнне, каб ведаў, што ягоныя турэмныя праекты не дасталіся пацукам. Іх выкарыстаў яшчэ адзін наш суайчыннік генерал К.Шыльдэр, які нарадзіўся ў мястэчку Сіманава пад Віцебскам. Ён і стаў афіцыйным «бацькам» першай у Расіі падводнай лодкі, што паспяхова прайшла выпрабаванні ў тым самым годзе, калі арыштанцкая карэта везла шлісельбургскага вязня ў Архангельск.

Застаецца дадаць, што — як ні дзіўна — імя нашага героя на радзіме не забытае. У гэтым можна пераканацца, наведаўшы Нацыянальны музей Рэспублікі Беларусь, дзе захоўваецца мадэль субмарыны, створаная паводле апісанняў і чарцяжоў К.Чарноўскага.

Цікава, а колькі карысных для дзяржавы ідэй і праектаў маюць сучасныя вязні мінскіх «валадаркі» і «амерыканкі»?

# Беларускія рыцары едуць у Чэхію

Кожнае лета чэшскія вайскова-гістарычныя клубы ладзяць рыцарскія фэсты. Падчас такіх сустрэчаў будуюць макет аднаго са старажытных замкаў — прычым у натуральную велічыню! — і ўзнаўляюць у дэталях канкрэтную бітву з тых, што адбываліся падчас Гусіцкіх войнаў напачатку 15 стагоддзя. Звычайна макет замка пасля штурму даводзілася разбіраць, але пасля леташняй бітвы ля мястэчка Млазавіцэ ўлады дазволілі пакінуць замак, таму ў гэтым годзе сустрэча адбудзецца на тым самым месцы.

Летась на фэст запрашалі замежных удзельнікаў, але прыехаць справіліся толькі беларусы — сябры вайскова-гістарычнага клуба «Калюмны» з Мінска. Сёлета ў Чэхію збіраюцца ўжо тры беларускія клубы, і не толькі са сталіцы.

Калі хто хоча з'ездзіць разам з рыцарамі ў Чэхію, дык гэта цалкам магчыма (праўда, ехаць давядзецца за свой кошт). Падчас паездкі (з 29 ліпеня па 3 жніўня) мяркуецца падарожжа па замках Чэхіі, экскурсія ў Прагу і, натуральна, рыцарская бітва. Даведкі можна атрымаць па тэлефоне ў Мінску: *232-00-08*.

**Вінцэсь ЛІПСКІ**



*На здымку: хлопцы з вайскова-гістарычнага клуба «Калюмны» пад сцяной замка, у якім заселі крыжакі (здымак 1997 г.)*

# Даты і лёсы

## 17 ліпеня

**1903.** Пачаўся другі з'езд РСДРП, на якім партыя раскалолася на бальшавікоў і меншавікоў.

**1917.** У Петраградзе адбылася 500-тысячная дэманстрацыя з патрабаваннем перадачы ўлады Саветам. Падчас яе разгону загінула каля 650 чалавек. Бальшавікоў, якія наладзілі гэтую дэманстрацыю, абвінавацілі ў супрацоўніцтве з германскімі спецслужбамі.

**1918.** Бальшавікі склікалі ў Маскве ўсерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі (а іх было тады каля 2 млн.). З'езд выказаўся супраць утварэння БНР.

**1930.** У Беларусі былі заснаваныя адразу чатыры новыя інстытуты: электратэхнічны, хіміка-тэхналагічны і будаўнічы ў Мінску і механічны — у Гомелі.

**1975.** У космасе састыкаваліся караблі «Саюз» і *Appolo*. Савецкія і амерыканскія касманаўты паціснулі адзін аднаму рукі на вышыні 200 км.

## 18 ліпеня

**1613.** Памёр беларускі і украінскі пісьменнік і царкоўны дзеяч Іпацій Пацей — галоўны ініцыятар уніі і арганізатар Берасцейскага сабору 1596 г. Былы кальвініст, у 1593 г. Пацей пастрыгся ў манахі і ў 1599 г. стаўся уніяцкім мітрапалітам.

**1870.** Ватыканская курыя абвесціла дагмат непамыльнасці Папы ў пытаннях веры і маралі.

**1925.** Выйшла з друку кніга Гітлера *Mein Kampf*, якую ён напісаў у мюнхенскай турме.

## 19 ліпеня

**1941.** Пачалася першая ў Беларусі карная аперацыя гітлераўцаў «Прыпяцкія балоты», у выніку якой былі знішчаныя 13.788 чалавек — акружэнцы, партызаны, габрэі.

**1972.** Іван Шамякін і Іван Мележ атрымалі званне народных пісьменнікаў Беларусі.

**1980.** У Маскве пачаліся XXII Алімпійскія гульні. У той жа дзень алімпійскі агонь быў запалены і ў Мінску, дзе праходзіла частка футбольнага турніру. У розных відах спорту ў Алімпіядзе ўдзельнічалі 28 беларусаў, якія здабылі 11 залатых, 7 срэбных і 7 бронзавых медалёў.

**1988.** Напярэдадні Першага ўсесаюзнага фестывалю польскай песні ў Віцебску адчыніўся летні амфітэатр з найвялікшымі ў Беларусі сцэнай і залай — на 5.400 месцаў.

**1996.** На XXVI Алімпійскіх гульнях, што пачаліся ў той дзень у Атланце, беларускія спартсмены атрымалі 1 залаты, 6 срэбных і 8 бронзавых медалёў. Па колькасці медалёў Беларусь заняла 20-е месца сярод 197 дзяржаваў-удзельніцаў.

## 20 ліпеня

**1837.** У Лондане адчыніўся першы ў свеце чыгуначны вакзал.

**1957.** Кагановіцкі раён Мінска быў перайменаваны ў Кастрычніцкі.

**1976.** Амерыканскі касмічны карабель *Viking* спусціўся на Марс і перадаў на Зямлю першы тэлерэпартаж пра Чырвоную планету.

**1990.** Вярхоўны Савет БССР утварыў камісію па распрацоўцы новай канстытуцыі. Праект яе быў адобраны ў першым чытанні ўжо ў лістападзе 1991 г., аднак узгадненне дробязяў расцягнулася яшчэ на два з паловай гады.

**1994.** Аляксандр Лукашэнка прыняў прысягу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на вернасць Канстытуцыі, паводле якой быў абраны в 5-гадовы тэрмін.

## 21 ліпеня

**1773.** Пад ціскам урадаў еўрапейскіх краінаў папа Клімент XIV забараніў дзейнасць ордэна езуітаў. Да 1814 г., калі забарона была скасаваная, езуіты легальна дзейнічалі толькі ў Расіі: яны першымі на захопленых землях Рэчы Паспалітай прынялі прысягу на вернасць Кацярыне II і разгарнулі сярод тутэйшага насельніцтва шырокую прапаганду на карысць дынастыі Раманавых. На некалькі дзесяцігоддзяў сталіцай ордэна стаўся Полацк.

**1816.** Паўль фон Ройтэр заснаваў у Германіі тэлеграфнае агенцтва бізнес-навінаў. У 1851 г. агенцтва *Reuters*, адно з буйнейшых у свеце, пачало збіраць і палітычныя навіны, а штаб-кватэра пераехала ў Лондан.

**1831.** Бельгія дамаглася незалежнасці ад Нідэрландаў і ўтварыла асобнае каралеўства. Расія, Аўстрыя і Прусія былі супраць і пачалі рыхтаваць інтэрвенцыю. Фактычна бельгійскую незалежнасць уратавала паўстанне ў былой Рэчы Паспалітай.

**1930.** Па справе «Саюза вызвалення Беларусі» быў арыштаваны заснавальнік беларускага мастацтвазнаўства Мікола Шчакаціхін. Праз 10 гадоў ссылкі ў Башкірыі ён памёр ад сухотаў.

**1960.** Упершыню ў свеце кіраўніком дзяржавы сталася жанчына — Срымава Бандаранаіке заняла пасаду прэм'ер-міністра Шры Ланкі, замяніўшы на ёй свайго забітага мужа Саламона.

## 22 ліпеня

**1593.** Лідэр французскіх гугенотаў Генрых IV перайшоў у каталіцтва, што адкрыла яму шлях да трона, а краіне — да сканчэння грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе. На бок новага караля перайшлі нават артадаксальныя каталікі: упершыню ў гісторыі нацыянальная салідарнасць перамагла рэлігійную варожасць.

**1822.** Нарадзіўся заснавальнік генетыкі Грэгар Ёган Мендэль — аўстрыйскі манах, які ўсе свае навуковыя адкрыцці зрабіў у кляштарным садзе.

**1993.** Падчас візіту беларускай дэлегацыі ў Амерыку прэзідэнт Б.Клінтан і старшыня Вярхоўнага Савета С.Шушкевіч падпісалі дэкларацыю аб прыязных адносінах паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь.

**1995.** Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II узяў удзел у набажэнстве на мінскай плошчы Перамогі. Прэзідэнт А.Лукашэнка ўзнагародзіў патрыярха медалём Францішка Скарыны.

## 23 ліпеня

**1888.** Нарадзіўся адзін з лідэраў рынку бульварнага чытва Рэйманд Чандлер. Да літаратуры майстар дэтэктыву звярнуўся толькі ў 44 гады, калі быў звольнены з нафтавай кампаніі за п'янства.

**1951.** Прыгавораны да пажыццёвага зняволення за здраду радзіме, у Францыі памёр за кратамі 95-гадовы маршал Ф.Петэн, кіраўнік калабаранцкага ўрада Вішы (1940—44).

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

